# БІРЖА МОЛАДЗЕВЫХ ІНІЦЫЯТЫЎ - 2012!

**З пачатку восені 2012 года 24 маладзёны удзельнічалі ў польскай праграме "Біржа грамадзянскіх моладзевых ініцыятыў – Грамадскія лідары". Праграма распачалася паездкай у Мотыч каля Любліна, дзе хлопцы і дзяўчаты спазнавалі таемнае мастацтва грамадскіх актывістаў, і скончылася 27 лістапада ў Берасці, у кавярні "Фея", калі былі падведзены вынікі доўгай працы.**



Праект "Біржа грамадзянскіх моладзевых ініцыятыў – Грамадскія лідары" з'яўляецца ўжо другім супольным праектам па выкарыстанні методыкі інтэрнэт-біржы для правядзення моладзевых ініцыятыў, арганізаваным АРР "Дзедзіч" і фундацыяй "Шчаслівае дзяцінства". Першы праект адбыўся восенню мінулага году і сабраў 36 удзельнікаў з розных навучальных устаноў Берасця.

Асноўная мэта праекту - атрыманне маладзёнамі ведаў пра сучасныя методыкі правядзення грамадскіх кампаній, а таксама актывізацыя моладзі, заахвочванне да актыўнай дзейнасці.

Напачатку ініцыятыўная група будучых моладзевых лідараў направілася у Польшчу, у невялікае мястэчка непадалёк ад Любліна, каб даведецца, што ёсць гэтыя самыя моладзевыя ініцыятывы, і як і для чаго іх рабіць.

У другой частцы удзельнікі, карыстаючыся атрыманымі ведамі, пісалі, выкладвалі на інтэрнэт-старонцы, выкупалі і рэалізоўвалі гэтыя ініцыятывы.

А трэцяя частка, заключная, падсумавала вынікі праекту і дала штуршок працягваць грамадскую дзейнасць.



Сёлета у працы «Біржа моладзевых ініцыятыў» прынялі ўдзел 24 маладзёны.

Было рэалізавана 47 ініцыятыў, як простых, школьных, сяброўскіх, так і больш значных для грамадства. З іх 17 ажыцявіла група-пераможца.

Сваімі уражаннямі ад праекту дзеліцца адна з самых актыўных удзельніц, **Вольга**:

*«Гэты праект - вельмі добрая магчымасць для самарэалізацыі. Ты сам вырашаеш - што, дзе, калі і з кім рабіць. Пад час такіх ініцыятыў ты можаш праявіць сабе, паказаць на што ты здольны.*

*Мабыць галоўнай праблемай быў недахоп часу - вучоба, сябры, інтэрнэт ды іншыя справы, але час можна знайсці заўсёды, было б жаданне, як потым мы зразумелі. Калі ты сапраўды чагосьці хочаш - нішто табе не перашкодзіць».*

Галоўным вінікам можна лічыць тое, што яшчэ некалькі маладых чалавек з Берасця зразумелі, што гэта такое - быць грамадскім актывістам, зразумелі, што можна не проста хадзіць у школу ці на працу, але рабіць нешта цікавае, карыснае і прышпільнае.

Хочацца верыць, што веды, атрыманыя юнакамі і дзяўчатамі будуць карысныя і ім, і нашаму грамадству, а праект працягне працу і на наступны год.

**dzedzich.org**

# ЧАМУ Я АБРАЎ ДЗЕДЗІЧ?

**Мы распачынаем серыю артыкулаў, дзе сябры Дзедзіча дзеляцца сваімі ўражаннямі, звязанымі з дзейнасцю арганізацыі і удзелам у розных акцыях і кампаніях.**




**На пытанні адказвае сябра Дзедзіча Вольга. Валанцёрам арганізацыі з'яўляецца ўжо два з паловай гады.**

**- Як ты прыйшла ў Дзедзіч»?**

- Я знайшла аб'яву ў «Укантакце», што патрабуюцца маладыя людзі, каб пісаць артыкулы на сайт ды ў газету. Я, канешне, не спецыяліст, аднак вырашыла паспрабаваць - і мне пашанцавала. А потым мяне ўцягнулі і ў іншую дзейнасць. Атрымалася цікава, вось я і засталася.

**- А ты чула пра Дзедзіч раней?**

- Так, час ад часу я атрымлівала газету ад распаўсюднікаў. І, дарэчы, не магла зразумець, чаму да яе ставяцца як да апазіцыйнага бюлетэня, які вярбуе некуды моладзь. Мне ўвогуле неяк не прыйшло ў галаву, што я магу звязацца па кантактах ды далучыцца да дзейнасці. А шкада.

**- Якая з акцый Дзедзіча табе спадабалася больш за ўсё?**

- Больш за ўсё мне спадабалася кампанія «Наша мова», калі наведвальнікі сайта выкладалі лепшыя беларускія творы, на іх погляд, а потым быў зроблены своеасаблівы хіт-парад. Я потым шукала тыя творы ды чытала іх.

Яшчэ мне спадабаўся сёлетні летнік, там было здорава - новыя знаёмствы, новыя уражанні. Нават новыя веды.

**- Што, на твой погляд, можа даць Дзедзіч маладзёну?**

- Па-першае, як гэта ні банальна - але магчымасць для самарэалізацыі. Ты можаш рабіць тое, што ты хочаш: праводзіць акцыі ці пісаць артыкулы, ездзіць у вандроўкі ці ўдзельнічаць у конкурсах, працаваць у нэце ці проста прыйсці паглядзець цікавае кіно ў добрай кампаніі.

Па-другое, гэта адпачынак. Актыўны і запамінальны. Гэта сустрэчы, знаёмствы. Па-трэцяе, гэта магчымасць змяніць хоць штосьці сваёй дзейнасцю. Па-чацвёртае, гэта асяродак, дзе можна свабодна размаўляць па-беларуску і на цябе не будуць коса глядзець, нават, калі ты робіш шмат памылак, як я, напрыклад.

**- А якія ўсё ж такі ёсць недахопы?**

- Пра недахопы, мабыць трэба казаць адносна кожнай канкрэтнай акцыі ці імпрэзы - то людзей няшмат, то апаратура не працуе, то сам пачатак зацягваецца. А так, то можна сказаць толькі пра адзін вялізны недахоп - гэта недахоп часу. Але гэта не праблема насамрэч - калі ты сапраўды хочаш, ты знойдзеш час - крыху менш прасядзіш у «Укантакце» ці раней прачнешся.

**dzedzich.org**



# БЕЛАРУСКАЯ ЛАЦІНКА

## АСНОЎНЫЯ ПРАВІЛЫ

**Беларуская лацінка падобная да чэшскай. У дасавецкі час такі правапіс шырока ўжываўся.**

ВЫРАЗАЦЬ І ЗАХАВАЦЬ

| Кірылічны сімвал | Сімвал на лацінцы | Кірылічны сімвал | Сімвал на лацінцы | Заўвагі: |
|---|---|---|---|---|
| А | A | Р | R | Усе мяккія гукі пішуцца як звычайныя цвёрдыя з дабаўленнем рысачкі «`» над літарай. У выпадку з «ь» рысачка ставіцца над папярэдняй літарай. |
| Б | B | С | S | |
| В | V | Т | T | |
| Г | H | У | U | |
| Д | D | Ў | Ŭ | Літары «е», «я», «ё», «ю» пішуцца з дадаткам «і» перад зычнымі — у астатніх выпадках з дадаткам «j» (гл. табліцу). |
| Е | Ie<br>Je | Ф | F | |
| Ё | Io<br>Jo | Х | Ch | |
| Ж | Ž | Ц | C | |
| З | Z | Ч | Č | Дыграфы «дз» і «дж» трэба пісаць, як звычайнае спалучэнне дзвюх літараў: «dz» і «dž» адпаведна. |
| І | I | Ш | S | |
| Й | J | Ы | Y | |
| К | K | Э | E | |
| Л | L | Ю | Iu<br>Ju | Прыклад: Hetaja dapamožnaja šyldačka byla zrobljena dlia čytačoŭ hazlety «Žvlazda», jakich ciahnie da spaznańnia z'javy bielaruskaj lacincy. |
| М | M | Я | Ia<br>Ja | |
| Н | N | ' | ` j | |
| О | O | Ь | ` (гл. заўвагі) | |
| П | P | | | |

Лацінкай выдавалі свае кнігі Янка Купала і Францішак Багушэвіч. «Наша Ніва» выходзіла ў дзвюх версіях: лацінкай і кірыліцай да 1911 года.

Газеты і часопісы лацінкай выдавалі беларускія каталікі.

Пры саветах беларускую лацінку забаранілі. Але шмат хто з інтэлектуалаў і цяпер карыстаецца ў прыватных запісах менавіта лацінкай.

Пераход на лацінку з арабічнага ці кірылічнага правапісаў у розны час ажыццявілі Турцыя, Азербайджан, Узбекістан, Малдова, Чарнагорыя. Гэта быў такі разрыў шаблона, цывілізацыйны выбар.

У Беларусі лацінка вяртаецца ў публічную сферу паволі.

Гэта частка нацыянальнага «я»: каб беларускія геаграфічныя назвы і імёны ўласныя беларусаў на іншых мовах перадаваліся са свайго нацыянальнага, а не русіфікаванага варыянта.

У тым ліку і ў мінскім метро з'явіліся схемы, на якіх назвы станцый метро дублююцца на беларускай лацінцы.

Для многіх гэта нязвыкла: а праблема ў тым, што школьная адукацыя ў нас кепская, і лацінкі не вучаць. Калі б лацінка хоць трохі вывучалася ў школьным курсе беларускай мовы, не было б здзіўлення. Пакуль лацінічнае пісьмо не вывучаюць у школах, яно не будзе ўжывацца шырока.

Варта адзначыць, што норму лацінічнай транскрыпцыі беларускай мовы зацвердзіла Акадэмія навук.

Аргументы, што такі варыянт замежнікам нязвыклы, несур'ёзныя. Кожная нацыя мае свой правапіс, адпаведна сваёй гістарычнай традыцыі. Чэхі, славакі, літоўцы, латышы, сербы, харваты... Усе яны маюць літары з гачкамі ці крэскамі.

А ўзяць французаў: ці ж яны перажываюць, што ў слове Renault пішацца 7 літар, а вымаўляецца 4 гукі?

Унармаваны Акадэміяй варыянт грунтуецца на векавой традыцыі, але адрозніваецца ад таго, што быў прапанаваны колісь Вацлавам Іваноўскім.

Гісторык Анатоль Сідарэвіч лічыць, што ў цэлым новы варыянт беларускай лацінкі цалкам прымальны.

«Толькі што літары G не хапае для правільнай перадачы гучання замежных уласных імёнаў», — зазначаў гісторык.

Мовазнаўца Зміцер Саўка кажа, што вяртанне беларускай лацінкі ва ўжытак — справа неабходная. «Гэты працэс варта падтрымліваць. Лацінка перспектыўная.

Добра, што дзяржава пайшла на прававое замацаванне статусу нашай лацінкі. Гэта вельмі разумны крок», — мяркуе ён.

**Паводле nn.by**

## БЕЛАРУСКІЯ СЛОВЫ З'ЯВЯЦЦА Ў FACEBOOK




**У Фэйсбуку з'явілася старонка «Беларускае слова штодня», на якой пачынаючы з 22 снежня будуць штодзень з'яўляцца рэдкія альбо добра забытыя беларускія словы з тлумачэннем і спасылкай на крыніцу (слоўнік, навуковы артыкул).**

«Ідэя з'явілася спантанна. Я параўноўваў сітуацыю носбітаў беларускай мовы ў Беларусі да расейскай і польскай у гэтых краінах. Яны вывучаюць свае мовы ў штодзённым ужытку, цалкам натуральна і не напружна. А ў нас так не бывае, бо беларуская мова ў Беларусі мае іншы статус і ўмовы функцыянавання. Беларуская мова не выкладаецца належным чынам у ВНУ, пра школы я ўжо не кажу, дык беларускамоўным практычна заўжды даводзіцца давучвацца. Праблема ў тым, што месцаў такога давучвання амаль няма», — кажа заснавальнік праекту Аляксандр Навіцкі.

Адукацыйны праект «Беларускае слова штодня» разлічаны на год, калі ён акажацца паспяховым, то, магчыма, Аляксандр, які з'яўляецца яшчэ і ўладальнікам перакладніцкай фірмы, працягне яго. Ён ужо запраграмаваў большую частку словаў, якія будуць з'яўляцца на старонцы вядомай сацыяльнай сеткі. Усе рэдка ўжываныя словы Аляксандр абіраў самастойна са слоўнікаў.

«Нармальным людзям і ў галаву не прыйдзе сесці і гартаць слоўнікі, а для такіх «ненармальных», як я, гэта частка жыцця і працы. Я шмат гадоў займаўся рэдактарскай працай на радыё, тэлевізіі і ў маёй уласнай фірме, таму выдатна знаёмы з "актывам" журналістаў і перакладчыкаў (а гэта тыя людзі, якія абавязаныя ведаць мову лепей за звычайных людзей), і прыблізна ўяўляю, якая лексіка ў нас актыўная, а якая — не».

**generation.by**

## РАСЕЙЦЫ НЕ ВЕДАЮЦЬ, ШТО ГАВОРАЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ

**У рэдакцыю «Нашай нівы» адзін з чытачоў даслаў ліст, дзе падзяліўся цікавымі назіраннямі.**

Я нарадзіўся ў Мінску, і дзяцінства маё прайшло там таксама. У сярэдзіне 60-х, у нашым двары дзяўчынкі бавіліся ў класікі, якія малявалі на асфальце.

Калі хтосьці з іх заступаў за рысу ці не трапляў біткай у патрэбную клетку, чуўся вокліч — «Страта, страта!»

Усе дзеці былі расейскамоўныя, ніхто з нас не размаўляў па-беларуску, тым не менш вымаўлялася менавіта слова СТРАТА. На той час я ўспрымаў гэтае слова абстрактна, як прыналежнасць да гульні, нават не задумваўся з якой яно мовы.

Не так даўно даведаўся, што расейцы не разумеюць слова «шуфлядка». У іх гэтая прылада завецца «ящик».

У Беларусі ж ніхто не скажа на шуфлядку «яшчык».

Шмат хто з нашых расейскамоўных, вымаўляючы беларускія словы, думаюць, што размаўляюць парасейску.

**Паводле nn.by**

## ЭКАЛОГІЯ ЧЫНОЎНІКАЎ НЕ ХВАЛЮЕ



**Жыхары вёскі Вычулкі, якая ўваходзіць у межы горада Берасця, атрымалі адказ на свой зварот да прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Яны скардзіліся на забруджанне мясцовага вялікага вадаёма, раней багатага флорай і фаўнай.**

Адказ прыйшоў з Берасцейскага абласнога выканаўчага камітэта за подпісам намесніка старшыні аблвыканкама Якава Бухавецкага. Па словах праваабаронцы Уладзіміра Вялічкіна, да якога жыхары Вычулак звярнуліся за дапамогай, адказ поўнасцю расчараваў людзей. У ім напісана, што парушэнняў экалагічных нормаў няма, санітарныя нормы выкананы. Сітуацыя з вадаёмам не выклікае пытанняў у мясцовых службаў.

Затое ў людзей узнікаюць пытанні: чаму здохла пара лебядзяў і 7 лебедзянят, чаму зніклі ракі, чайкі, якіх раней тут было шмат, дзе рыба, якая таксама радавала мясцовых рыбакоў.

60 падпісантаў пад зваротам не вераць запэўніванням мясцовых чыноўнікаў і лічаць, што паспрыялі катастрафічнай сітуацыі вадаёма абласная бальніца, анкалагічны дыспансэр і асабліва цяплічны камбінат, дзе круглы год вырошчваюць гуркі і памідоры.

Вяскоўцы працяглы час змагаюцца за вадаём, але пакуль беспаспяхова.

**spring.org**

## МЕЖДУНАРОДНЫЙ ДЕНЬ ЛЕСА



**Второй комитет Генеральной Ассамблеи ООН одобрил резолюцию об учреждении Международного Дня леса.**

По словам помощника Генерального директора Продовольственной и сельскохозяйственной организации ООН (ФАО) Эдуардо Рохаса-Бриалеса, окончательное решение о новом празднике предполагается принять на пленарном заседании Генеральной Ассамблеи ООН, которая состоится до конца этого года.

Международный День леса планируется отмечать 21 марта.

По оценке Эдуардо Рохаса-Бриалеса, это событие - значительный успех для всего мирового сообщества.

**greenbelarus.info**

# ПОЧЕМУ НЕЛЬЗЯ РИСОВАТЬ РАДИАЦИЮ?

**Татьяна Новикова, известная активистка-экозащитница, участница Белорусской антиядерной кампании, пишет о ситуации в Беларуси в связи со строительством Островецкой АЭС - о формировании общественного мнения и о самой стройке.**

### ДОМАШНЕЕ ЗАДАНИЕ

Одна моя подруга рассказала мне на днях интересную историю. Ее дочь принесла из школы домашнее задание – нарисовать плакаты экологического содержания. Школа – продвинутая, центральная. Детям объявили тему домашнего задания и очень серьезно предупредили – только ни в коем случае нельзя рисовать радиацию и вообще – НИЧЕГО ПРО РАДИАЦИЮ! Дети – старшеклассники, поэтому им объяснили, ПОЧЕМУ нельзя про радиацию. Потому что СТРАНА СТРОИТ АЭС!

Это очень хорошая задача для психоаналитика. Но будучи даже неискушенным в этом занятии, можно с уверенностью сказать, что вертикаль власти, подпираемая системой образования постоянно выдает себя, проговаривается. Вот и сейчас – объясните, уважаемые педагоги, какая связь между радиацией и новой АЭС? Ведь официальная пропаганда утверждает, что не будет от новой АЭС никакой радиации!

Но учитель не насколько глуп, и не настолько глупы дети, чтобы не понимать того, что производство атомной электроэнергии напрямую связано с производством радионуклидов, которые так или иначе – через вентиляционные трубы, фильтры, в процессе эксплуатации АЭС, а также при авариях различной тяжести ПОПАДАЮТ в окружающую среду. Да это и написано в официальной ОВОС АЭС – оценке воздействия на окружающую среду.

Но официальная пропаганда говорит: «Радиации нет». Или: «Радиация есть, но она безопасна!» Тезис о безопасности радиации недоказуем, поскольку доказано обратное. Даже малые дозы радиации вокруг безаварийно действующих АЭС, по данным американских и немецких официально признанных исследований, вызывают проблемы со здоровьем – у детей лейкемию, у женщин проблемы с рождением детей.

Но хорошо, давайте закроем глаза и для вящей уверенности в нашей светлой «стабильнасци» просто поверим на слово великому кормчему – и скажем: «Радиация безопасна!» Но ТОГДА ПОЧЕМУ ЕЕ НЕЛЬЗЯ РИСОВАТЬ?

Где там товарищ Гигин? Он как-то вещал в «Советской Белоруссии» про сакральность белорусской власти, впору ему теперь возвести радиацию на престол, объявить ее сакральной, запретить упоминать всуе и ходить молиться на воображаемый бетонный купол саркофага несуществующей АЭС!

### ЧТО ПОЛУЧАЮТ СТРОИТЕЛИ АЭС?

Не так давно прогосударственные средства массовой информации начали тиражировать очередную пропаганду строительства Островецкой АЭС. Вполне в духе советского агитпропа: «вся страна засучив рукава», «водители получают по 7 миллионов в месяц», «условия – красота», «на стройку АЭС, как на БАМ» и в том же духе. Населению внушают – не боритесь с АЭС, а лучше на ней заработайте!

В этом году мне несколько раз удавалось побывать как на месте строительства АЭС, так и в селах поблизости, поговорить с жителями и рабочими.

Никакой красоты я там не находила, а видела условия от кошмарных до сносных, то есть переносимых, как, например, деревенский дом в Ворнянах с удобствами на улице. То, что писали про условия строительства независимые СМИ со ссылкой на репортаж на Bellona.ru – правда.

Летом в районе строительства я видела своими глазами оборванных и чумазых водителей самосвалов – кто топлесс, кто в «простреляных майках» и штанах. Условия работы летом, по их словам, когда копали котлован были чудовищными, во время дождя люди месили грязь, стоя в ней по колено, в зной – глотали пыль и не знали где укрыться от палящего солнца. На площадке не было ни места для отдыха, ни места для приема пищи, только пара «биотуалетов».




Первые зарплаты строители начали получать летом. И по словам одного каменщика, местного жителя – он получал около 4-х миллионов в месяц на строительстве зданий инфраструктуры. Для деревенского жителя, живущего поблизости это не так и плохо, но для тех, кто едет за длинным рублем – на стройках России выгоднее и интереснее.

Из Лынтупов на приличное расстояние ездит автобус, подвозящий местных рабочих строить АЭС, но молодежь как ездила подрабатывать в Москву, так и ездит! А водители, работавшие на стойке летом, говорят, что платят меньше обещанного.

Я не хочу разочаровывать тех, кто хочет подработать на строительстве, кому некуда деваться и дома плачут голодные дети. В конце концов, это вина белорусской власти, что люди работают на строительстве АЭС, а не на строительстве биогазовых комплексов или на установке ветряков и солнечных батарей. Но если рассуждать о том, что получают строители белорусской АЭС, можно уверенно сказать – ничего того, из-за чего можно было бы бросить свой дом, работать в тяжелых условиях, но самое главное, заработать себе, как сейчас говорят, «карму» или проклятия на свою голову. Строят основание фундамента для реактора белорусской АЭС без архитектурного проекта атомной электростанции. И ответственность за происходящее лежит на всех его участниках – и заказчиках, и исполнителях. От этой ответственности никуда не уйдешь, даже если ты оболванненый БТ местный житель, и думаешь, что в Германии работают сто АЭС.

Кстати, Германия отказалась от атомной энергетики и в прошлом году закрыла 9 АЭС. Япония целый год прожила без всех своих 54-х атомных электростанций и не торопится их открывать.

Людям, которым все равно, ЧЕМ зарабатывать на жизнь и КАКИЕ от этого будут последствия, хочу сказать – есть много разных унизительных и вредных для людей и окружающей среды работ и профессий, но ни одна не принесет ТАКОГО количества вреда, который приносит одна атомная электростанция даже в безаварийном режиме работы.

**blog.belaruspartisan.org**

# ВАЙНА ЗА БЕЛАРУСКАЕ МОРА

## НАРАЧАНСКІ БУНТ 1936-га

**Яны былі далёкія ад палітыкі і нацыянальных імкненняў. Іх яднала пачуццё крыўды і перакананне, што не можа ўмомант стаць чужым тое, што стагоддзямі належала іх прадзедам. Яны самі сябе баранілі, збіралі грошы, салідарызаваліся — і перамаглі.**

**Беларускія рыбакі самі, без адвакатаў і пратэжэ, змусілі аўтарытарную дзяржаву пайсці на саступкі. Адстаялі свае права на беларускае мора — Нарач.**

Вясна 1935 года. Прыазёрныя вёскі апанавала роспач: раптам прыехала паліцыя і забараніла рыбакам набліжацца да возера. Што есці? З чаго жыць? Паліцыянтаў гэта мала кранае: яны спасылаюцца на закон міністра сельскай гаспадаркі Панятоўскага: лавіць рыбу ў возеры маюць права толькі яго законныя ўласнікі. Нейкае непаразуменне: хто ж, як не мясцовыя людзі, тыя законныя ўласнікі? Яны ад дзядоў-прадзедаў атрымалі возера ў спадчыну. Многія могуць пацвердзіць права на рыбныя тоні дакументамі. Рыбакі тыцкаюць паперы паліцыянтам. Але тыя адмахваюцца. Загадана не пускаць.

Так польскі урад нацыяналізаваў Нарач.



Нарач. Рыбакі за працай. 1930-я.

### «ДАКАЖЫЦЕ, ШТО ВОЗЕРА ВАША»

За праўдай рыбакі едуць да старасты ў Паставы. Пачутае адбірае ў іх мову.

25 сакавіка ўступіў у дзеянне новы рыбацкі закон. Лавіць рыбу несанкцыянавана забараняецца: калі хтосьці мае правы на частку возера, на ім утвараецца рыбацкая зона. «Можа, і ваша возера, я ж не супраць, але дакажыце гэта», — кажа староста. А як дакажаш? Грошай няма на хлеб, не тое што на адвакатаў у судзе.

Не ўсе сяляне мелі дакументы на свае тоні. Большасць абапіралася на традыцыю, на права бацькоў і дзядоў. Рэшта атрымала нарачанскія тоні ў якасці кампенсацыі падчас нацыяналізацыі зямлі.

А «да моманту высвятлення юрыдычнага статусу» Нарач здалі ў арэнду дзяржаўнай фірме — Дырэкцыі дзяржаўных лясоў. На возеры была створаная ўсяго адна рыбацкая зона — для яе.

Пяць тысяч чалавек адчулі подых галоднай смерці. Бо без Нарачы пракарміцца і зарабіць грошы на падаткі рыбакі не маглі.

Новы закон спарадзіў абсурд: дзяржава выдаткоўвае грошы на рыбную гаспадарку Нарачы, каб сотні сем'яў не мелі чым плаціць гэтай дзяржаве падаткі.

### ПАРАДКІ Ў ДЫРЭКЦЫІ

Новы парадак паставіў крыж і на традыцыі, якая спакон вякоў існавала на Нарачы. Падчас лову рыбакі дзяліліся рыбай з усімі, хто прыходзіў на возера. Адзін дапамагаў з невадам, другі збіраў рыбу, дзеці совалiся туды-сюды з кошыкамі і збанамі. Ніхто не сыходзіў з пустымі рукамі.

Дырэкцыя ж не дазваляе найманым рабочым узяць дадому ані рыбкі. Пасля працы іх абшукваюць. Калі ў кагосьці знаходзяць хаця б адну — выкідаюць з працы.

Ды і плаціць Дырэкцыя смешныя грошы: злоты за дзень. Пяць невадаў, якія яна запусціла на Нарачы, абслугоўвае ўсяго 150 чалавек.

Што рабіць астатнім? Куды ні падайся — адказ адзін: дакажыце права на ўласнасць. Але за што жыць? Зямля вакол Нарачы не родзіць — пяскі. Сяляне просяць Дырэкцыю дазволіць ім запусціць на Нарачы хоць два прыватныя невады на сяляву. Старшыня Яблоньскі дазваляе, але з умовай: рыбу яны павінны прадаваць яго ўстанове.

### 66% РЫНКАВАЙ ЦАНЫ

Ініцыятыву бяруць у свае рукі аўтарытэтныя рыбакі Міхал Кавалёнак з Купы і Васіль Булаўка з Галубэнькі.

Яны даюць па вёсках гасла: збор грошай на невады. Булаўка прадае каня за 115 злотых, хтосьці — карову. Нехта дае 50, нехта 5, нехта 3 злотыя. Са 120 чалавек сабралі 500 злотых. Яшчэ на 1300 рыбакі падпісваюць вэксалі і едуць у Вільню — па невады.

Праз некалькі дзён навюткія сеткі апускаюцца ў нарачанскія глыбіні. З 800 кілаграмамі сялявы рыбакі едуць у сядзібу Дырэкцыі. А там — неспадзяванка: «Рыбу возьмем, але заплацім толькі 66% ад рынкавай цаны».

Рыбакі плююцца і вязуць сяляву ў Вільню купцу Рыўкінду, сталаму пакупніку нарачанскай рыбы. А там ужо чакае паліцыя. Тавар канфіскуюць, пра аплату няма і слова... Дзе справядлівасць? Рыбакі кідаюцца да ваяводы. Але той іх і слухаць не стаў.

### СТРАЙК

І СПАКОЙНЫЯ НАРАЧАНЦЫ НЕ ВЫТРЫМЛІВАЮЦЬ. НЕВЯДОМА, ХТО ПЕРШЫ ПРАМОВІЎ ГЭТАЕ СЛОВА — СТРАЙК. ХТОСЬЦІ АДВАЖНЫ КІДАЕ КЛІЧ: «КАЛІ ЎРАД НЕ ДАЗВАЛЯЕ ЛАВІЦЬ РЫБУ НАМ, ДЫК МЫ НЕ ДАЗВОЛІМ ЛАВІЦЬ ЯЕ ЎРАДУ».

Салідарна паўсталі вёскі Наносы, Купа, Галубэнькі, Чараўкі, Пасынкі, Мікольцы... Пачатак лютага, страшэнныя маразы. Сяляне выходзяць на нарачанскі лёд. Моўчкі выцягваюць з вады невады Дырэкцыі, заносяць на бераг і акуратна развешваюць. Ніхто не лямантуе, не кідаецца ў бойку. Работнікі Дырэкцыі толькі вачыма лыпаюць. Праца сарваная.

Тады ляснічы наймае лавіць рыбу сялян з далёкіх вёсак — мо з гэтымі бунтаўнікам будзе цяжэй справіцца, чым з аднавяскоўцамі. Але наносаўцы, пасынкаўцы і купаўцы гоняць новых работнікаў з Нарачы. Без бойкі, вострымі словамі, рашуча і настойліва. Праца на Нарачы цалкам спыняецца з-за бунту сялян.

### «ЯК У САВЕТАХ — ПРЫЙШЛІ НАШУ ЎЛАСНАСЦЬ ЗАБІРАЦЬ?»

Супраць рыбацкага закона пратэстуюць не толькі нарачанцы. Недалёкай вёсцы Пярэграздзь належала 522 гектары возера Мядзел. Частку тоняў сяляне здавалі ў арэнду тутэйшаму багацею Уладзіславу Вештарду. Бывала, за год ён плаціў вёсцы па 2 тысячы злотых.

Калі пачаў дзейнічаць рыбацкі закон, на возера быў абвешчаны тэндар. Перамог Вештард, за 3250 злотых арандаваў усё возера.

Але грошай сяляне не пабачылі. Сума ішла ў казну староства.

Калі Вештард выйшаў на лёд лавіць рыбу, сяляне забралі ў яго невад. Вештард выклікаў паліцыю. Чаго толькі не наслухаліся тыя чацвёра паліцыянтаў!

— Што вы гэта? Як у Саветах — прыйшлі нашу маёмасць, нашу ўласнасць забіраць?! — лямантавалі людзі.

Самыя ж адважныя пачынаюць зноў лавіць. За гэта 28 рыбакоў трапляюць пад арышт.

### СТАРАСТА ПРОСІЦЬ МІРУ

Вернемся на Нарач. Рыбак з Наносаў Міхал Роліч і Міхал Субач з Пасынак едуць да пана Яблоньскага — на перамовы. Увечары вяртаюцца ні з чым. А следам да Роліча завітвае паліцыя і запрашае праехацца ў мястэчка Кабыльнік. «Хутка вернецеся», — запэўніваюць паліцыянты. З Кабыльніка Роліча вязуць у Паставы, куюць у кайданы і этапуюць на Лукішкі. Праз тры тыдні рыбака вызваляюць, як і арыштоўвалі — без тлумачэнняў.

А дома Роліч дазнаецца, што страйк скончаны. Калі яго арыштавалі, 400 рыбакоў прыехалі ў Кабыльнік патрабаваць вызвалення. Цудам удалося пазбегнуць сутычак з паліцыяй.

Староста, пабачыўшы, як накалілася сітуацыя, прапануе мір. «Калі вы дазволіце лавіць Дырэкцыі і самі пачнеце працаваць, мы вызвалім вашых таварышаў. Лавіце сяляву сваімі сеткамі, але прадавайце яе Дырэкцыі. Цана — 50 грошай за кілю», — кажа староста. Рыбакі радзяцца. Калі адняць кошт транспарту ў Вільню і камісійныя, выходзіць тое самае, што і да прыняцця закона. І яны пагаджаюцца.

Староста прапануе падпісаць дамову, але сяляне адмаўляюцца: «Дырэкцыя не ўласнік Нарачы, таму падпісваць не будзем». Вусная дамова з Дырэкцыяй тычылася толькі сялявы. Пра акунёў, плотак, шчупакоў гаворкі не было. Сяляне лавілі іх у неабмежаванай колькасці і прадавалі каму хацелі. За канфіскаваныя ў Вільні 800 кілаграмаў рыбы ім, дарэчы, таксама вярнулі грошы. За кілю па 66 грошаў. Добрая цана.

### КАМУНІСТЫ ХАЦЕЛІ ПРЫМАЗАЦЦА

А ўвесну 1936 Дырэкцыя цалкам выраклася тае арэнды. Нарачанскія рыбакі адстаялі свае возера. Гэтую перамогу хацелі пасля прысабечыць камуністы. КПЗБ абвясціла сябе натхняльніцай бунту, пасля вайны камуністы баілі пра ўлёткі, якімі яны закідалі ваколіцы Нарачы, пра лясныя перамовы з сялянамі. Аднак польскім уладам было б выгадна спісаць бунт на «руку Масквы», каб жорстка расправіцца. Палітычная паліцыя не прапусціла б магчымасці выявіць савецкіх шпегаў-агітатараў. Але нічога падобнага не было.

Нарачанскі бунт быў самастойным пратэстам рыбакоў, і гэтым ён унікальны.

Пасля страйку віленскі журналіст Юзаф Мацкевіч, які фактычна вёў «анлайн» рыбацкага бунту ў газеце Slowo, пытаўся ў нарачанцаў, ці прадалі б яны возера, калі б урад прапанаваў добрыя грошы. Адзін рыбак адказаў на гэта: «А ці маю я права? Ну, вазьму я пару соцень, тысячу, а можа і дзве. Грошы скончацца — і што далей? Я пра дзяцей павінен думаць».

НАРАЧАНСКІ БУНТ БЫЎ ГОРКІМ УРОКАМ ДЛЯ ПОЛЬСКАЙ УЛАДЫ І ПАЦВЕРДЗІЎ СТАРУЮ ПРАЎДУ: КАЛІ ДЗЯРЖАВА ГУБЛЯЕ ПАВАГУ ДА ГРАМАДЗЯН, ТО ПАВІННА ЧАКАЦЬ ТАКОГА Ж СТАЎЛЕННЯ І ДА СЯБЕ.

**Паводле: nn.by**

## ДАРЭЧЫ

Выпадак гэты адбыўся дзесьці напачатку 80-х у горадзе Ўладзівастоку на адным з баявых караблёў Ціхаакіянскага флота. Стаяў гэты карабель на 33 прычале ў самым цэнтры горада: 50 метраў - штаб флота, 100 метраў - цэнтральная плошча, на якой з нагоды свята тусавалася шмат народа. Па караблі дзяжурным стаяў малады і неспрактыкаваны лейтэнанцік.

У адзін прыкладна час на караблі адбываліся некалькі дзеяў. Афіцэры рыхтаваліся выязджаць на свята ў Дом афіцэраў флота, Дзяжурны па карауле прыехаў за матросамі, якія заступаюць на варту, і прадуктовая машына прывезла на карабель бочку квашанай капусты, якую павінен быў атрымаць дзяжурны па службе забеспячэння (на рукаве павязка СС, «служба снабженія»). І вось, значыць, гэты малады лейтэнант аб'яўляе па гучнай сувязі (кіламетры на 2 дакладна чуваць) наступны тэкст:

- Дзяжурнаму эсэсаўцу падняцца на верхнюю палубу, варце атрымаць зброю, афіцэрам-камуністам шыхтавацца ля сценкі.

***

1942-гі год, зіма, Беларусь. Ляціць над акупаванай тэрыторыяй Змей Гарыныч. Прызямляецца каля хаткі. З яе выходзіць эсэсавец, з чаркай шнапса ў адной руцэ і МР-40 у другой. За ім шыхтуецца ўзвод «зольдацікаў».

-Du wer? (ты хто?)

-Э-э-э... Цуда-юда, змей...

-Jude?! Soldaten, Feuer!

***

Дзяўчына з інтэлігентнай сям'і паступае ў інстытут у іншы горад.

Праз месяц ёй тэлефануе мама:

- Дачушка, як ты там? Кажуць у вас там студэнты п'юць, паляць, ужываюць наркотыкі, займаюцца сэксам, уступаюць у рэлігійныя секты.

Дачка, здзіўлена:

- РЭЛІГІЙНЫЯ СЕКТЫ?

***

- Дарагі, ты станеш татам.

- Ты што, цяжарная?

- Не, блін. З Ватыкана тэлефанавалі.

***

Яна:

- Кім будзеш апранацца на новы год?

Ён:

- Шрэкам.

- Маску купіў?

- Пакуль не, а ты кім будзеш?

- Прыгажуняй!

- Маску купіла?

***

- Алё?

- Прывітанне.

- Прывітанне.

- Не магу ўспомніць Лехін тэлефон. У цябе ёсць яго нумар?

- Ёсць.

- Ну, давай.

- Ну, давай. (Кладзе трубку).

***

- Як адрозніць быка ад каровы?

- Калі доіш быка, ён пасміхаецца.

Маленькі пляменнік кажа сваёй цётцы:

- Дзякуй за падарунак!

- Няма за што, сонейка!

- Я таксама так думаю, але мама загадала вам падзякаваць.

***

Дарагі Дзед Мароз! Я была добрай увесь год. Ну, амаль увесь год. Ну, часам. Ну пару разоў вось сапраўды была...

Ой, ды добра, куплю ўсё сама.

***

Вось так бывае: паставіш любімую песню на будзільнік… І няма больш любімай песні…

***

Сяброўка прапанавала пагаварыць пра нашу будучыню. Я паўгадзіны расказваў пра лазеры, тэлепартацыю і сілавыя палі. Па ходу, не вельмі зразумеў пытанне.

***

- Народ, хто можа распавесці пра катлы Viessmann?

- У мяне стаіць.

- У мяне таксама стаіць. Але я хацеў бы усё-ж такі даведацца пра катлы.

***

Знойдзена самая добрая бландынка.

Яна скупляе ў краме жывых карпаў і адпускае іх на волю. У лес.

***

Мужык прыходзіць да лекара і кажа:

- Доктар, у мяне праблемы: з жонкай дрэнна жыву, дэпрэсія…

- А у вас даўно быў сэкс з жонкай?

- Пачакайце секунду…

Тэлефануе:

- Лена, а ў нас даўно быў сэкс?

Жонка:

- А хто гэта?

***

Хлопец – бландынцы:

- 67% усіх бландынак – тупыя.

- А я ўваходжу ў астатнія 13%!

***

У расейскіх паказках украінцы пераважна тупыя і сквапныя.

Але дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што ва ўкраінскіх паказках расейцы пераважна мёртвыя.

***

Бландынкі носяць сонечныя акуляры на валасах, таму што, калі іх апрануць на нос, то становіцца цёмна і страшна.

***

Стаяць дзве бландзінкі і, гледзячы на мужчыну, спрачаюцца:

- Гэта ён.

- Не, гэта не ён.

- А я гавару, што гэта ён. Давай спытаем!

Падыходзяць яны і гавораць мужчыне:

- Гэта вы?

А мужчына ў адказ:

- Так! Гэта я!

Адна гаворыць іншай:

- Я ж гаварыла, што гэта ён.

***

Хахол ідзе па лесе, раптам яму насустрач выскоквае здаравенны кабан. Абодва застываюць, аслупянеўшы.

"Кабан!" – спалохана думае хахол.

"Хахол!" – спалохана думае кабан.

Невялікае нямецкае мястэчка. Вечар. На тэрасе сядзяць дзед(Д) і ўнук(У) гадоў 20-ці. Дзед п'е піва, паліць і чытае газету, унук сядзіць у інтэрнэце.

Д: Табе 20 гадоў, а займаешся ўсякай фігнёй! Вось я ў твае гады паехаў у Парыж з таварышамі, адцягнуліся так, што чарцям моташна стала.

У: Ну і чаго вы там рабілі?

Д: Заваліліся ў Мулен Руж, нажэрліся, пад барную стойку насікалі, дзевак тамтэйшых усіх перакаштавалі, афіцыянтам пысы напакавалі і сышлі, не заплаціўшы. А ты, прыдурак, віруаліш!

Праз тыдзень тая ж карціна, але ва ўнука гіпс на руцэ і назе, галава перавязана і сінякі пад вачыма.

Д: Што здарылася?

У: Па тваёй парадзе паехалі з сябрамі ў Парыж. Мулен Руж. Ну нажэрліся, пад стойку насікалі, дзевак палапалі, афіцыянту навалялі, але калі пачалі сыходзіць не заплаціўшы, прыехала паліцыя і... вось вынік!

Д: А хто быў у вас тураператарам?

У: TUI!

Д: Аааааааа! А ў нас вермахт!

***

Сустракаюцца дзве бландынкі.

- Прывітанне, як справы?

- Ты дастала ўжо сваімі дурнымі пытаннямі!

- Якімі?

- “Прывітанне, як справы?”

- Нармалёва.

***

Бландынка на сумоўі:

- Вы ў школе якую мову вывучалі?

- У трыццатай.

***

Сястра застукала мяне за ананізмам і абазвала вычварэнцам. На наступны дзень я яе застукаў за тым жа. І яна ізноў назвала мяне вычварэнцам. Няма ў свеце справядлівасці…

***

- Ніна Паўлаўна, памятаеце, летась вы паставілі мне тройку па эканамічнай геаграфіі? Я доўга выношвала сваю помсту і вось зараз магу вам паведаміць, што ўчора я спакусіла вашага мужа!

- Дзяўчынка мая. Даражэнькая. Ты не паверыш, але 25 гадоў назад я таксама паставіла тройку адной студэнтцы. І таксама па эканамічнай геаграфіі. І яна таксама доўга выношвала помсту. Гэта была твая мама.

***

Ветэран распавядае моладзі пра тое, як Берлін браў. І даходзіць апавяданне да нямецкіх жанчын:

- А бабы ў немцаў, сынкі, скажу я вам… Юрлівыя і ахвочыя да мужыкоў… Бывае, у хату нагой дзверы выб'еш, убяжыш унутр, чаргу з аўтамата ў столь дасі, а яны аж трасуцца – так мужыка хочуць!

***

Два электрыка сядзяць на слупе. Унізе праходзіць бабка:

- Бабка, падай провад!

- Трымай, сынок.

- Ну вось, а ты кажаш: “Фаза, фаза”.

***

Пытанне: Я спампавала файл з Інтэрнэта, а аказалася, што ён мне не патрэбен. Як яго цяпер запампаваць назад?

Адказ: Дура, з-за такіх як ты хутка ў Інтэрнэце ўвогуле файлаў не застанецца!!!

Дзедзіч ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

• **Заснавальнік:** ініцыятыўная група моладзі
• **Распаўсюджваецца бясплатна**
• **Падпісана ў друк** 22.12.2012 года у 18-00
• **Папера** афсетная, фармат А4, 1,5 ул.-друк. аркуша,
• **Гарнітура** Helios
• Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі

**Галоўны рэдактар:** Дзмітрый ШЫМАНСКІ.
**Рэдакцыйная калегія:** Ю. Мікалаева, А. Каховіч, П. Дайлід, У. Красько, А. Трус. **Адказны за выпуск:** Вольга ЯРАМЧУК.
• **Кантактныя тэлефоны: (029) 660-57-41, (029) 724-21-16.**
• **E-mail:** dzedzich@dzedzich.org. **Інтэрнэт:** www.dzedzich.org
• Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
• Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
• **Наклад** 299 асобнікаў

**№9(78) • СНЕЖАНЬ 2012**